

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.*

№7 (243) ТРАВЕНЬ 2018 ГОД


УРАЧЫСТАСЦІ

## УШАНАВАЛІ ПАМЯЦЬ ЗЕМЛЯКОЎ

**Мінула 73 гады пасля вайны, і ў Шуміліне па савецкай традыцыі адзначаюць Дзень Перамогі. У гэты дзень зберагаюць мір так, як рабілі гэта салдаты мінулай вайны. Шумілінцы смуткуюць над брацкімі магіламі, нясуць да іх вянкі і кветкі, а самадзейныя артысты 9 траўня ладзяць канцэрты на ваенную тэматыку.**

Зямля ў траўні салютуе сучаснаму міру белымі і ружовымі аблокамі садоў, пунсовымі цюльпанамі, жоўтымі нарцысамі, фіялетавым бэзам. І гэты рознакаляровы кветкавы салют упрыгожыў святочныя мерапрыемствы, якія праходзілі ў Шуміліне ў Дзень Перамогі.

Урачыстасці распачаліся шэсцем «Слава героям Шумілінскага краю». У дэманстрацыі прынялі ўдзел прадстаўнікі арганізацый і прадпрыемстваў, актывісты грамадскіх арганізацый, моладзь, жыхары раёна. І на гэты раз было вырашана прайсці па вуліцах райцэнтра з партрэтамі сваіх продкаў, тым больш, што новае пакаленне лічыць мэтазгодным узгадаць іх баявы шлях, каб захаваць эстафету памяці. На жаль, ветэранаў і жывых сведкаў той вайны, застаецца ўсё меней.

Затым на брацкіх могілках адбыўся мітынг.

Кіраўнік раёна Аляксандр Снараў зазанчыў, што "пасыл да міру непадуладны часу. Ён жыве ў кожным чалавеку і генетычна перадаецца з пакалення ў пакаленне. І сёння мы ў адказе за тое, каб гэты запавет ніхто не парушыў".

Шумілінцы ўшанавалі памяць загінуўшых ў гады вайны хвілінай маўчання, усклалі кветкі да брацкіх магіл, дзе знайшлі свой апошні прытулак 178 воінаў 6-й і 43-й савецкіх войскаў.

Надалей урачыстыя святкаванні прадоўжыліся канцэртам у гарадскім парку. Гледачы і госці Шуміліна шчырымі апладысментамі віталі выканаўцаў, падхоплівалі і спявалі разам з шумілінскімі артыстамі папулярныя песні.

Для жадаючых актыўна адпачыць таксама шмат чаго было прадугледжана. Раённым цэнтрам дзяцей і моладзі была падрыхтавана праграма розных спаборніцтваў. Як дарослыя, так і дзеці спрабавалі прайсці выпрабаванні ў спартыўнай праграме фізкультурна-аздараўленчага цэнтра.

Тым часам на стадыёне разгарнуліся спаборніцтвы па пляжным валейболе і футболе. Работнікі раённай бібліятэкі прапанавалі паспяваць песні ваенных часоў.

Былі арганізаваны шматлікія выставы гісторыка-краязнаўчага музея, а шумілінскую моладзь запрашалі прайсці квіз (гэта своеасаблівая віктарына ў залах музея). У сваю чаргу тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва прэзентаваў свае сувеніры.

Як і заўсёды, самымі актыўнымі ўдзельнікамі свята з'яўляліся малыя дзеці. Рабяты ў гэты дзень шпацыравалі ўсюды: яны шчыра радаваліся новай горцы, усталяванай днямі ў парку, атракцыёнам, паветраным шарам і гандлёвым радам, дзе прадавалі розныя прысмакі.

А напрыканцы мерапрыемства адбылася традыцыйная акцыя «Свечка памяці».

**Алесь Шумскі**

ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА

## ПРАБЛЕМЫ СЕЛЬСКАГА БІЗНЕСУ

**А дзе ж прадукт сельскіх бізнесменаў? Чаму ў нас не развіваецца фірменны фермерскі гандаль? Шумілінскі фермер Юрый Сямёнаў, лічыць, што фермерам пакуль не хапае згуртаванасці, каб весці роўны і паспяховы дыялог з гандлёвымі сеткамі.**

Трэба зразумець сваё своеасаблівасць і аб'яднацца. Кааперацыя і па перапрацоўцы, і па вырошчванні садоў, па арганізацыі збытавай сеткі. Гэта не пазбаўляе фермера пачуцці гаспадара, але за кошт кааперацыі і буйных аб'ёмаў можна знізіць выдаткі і стаць канкурэнтаздольнымі. І не толькі на ўнутраным рынку.

З гэтай высновай пагадзіўся і старшыня Савета Беларускага грамадскага аб'яднання фермераў Юрый Сямёнаў, кіраўнік аднаго з найбуйнейшых фермерскіх гаспадарак Віцебшчыны - КФХ «Крыніца» Шумілінскага раёна:

- На з'ездзе фермераў ў Казахстане часта чуў: «Вось гэта мы прадаем на Чыкагскай біржы, а вось гэта - на Шанхайскай біржы ...» І гэтак далей. Калі фармуецца вялікая партыя тавару, яна становіцца цікавай для пакупніка і кошт узрастае. Як жа паступаем мы? Паасобку прапануем свой тавар на расійскі і ўнутраны рынкі, зніжаючы цану адзін перад адным з адзіным жаданнем – тэрмінова прадаць. У гэтым выпадку мы не можам уплываць на цэнаўтварэнне, а таму ўсе застаемся ў пройгрышы. Трэба вучыцца працаваць разам. Суседзі працуюць, а мы, на жаль, яшчэ ў дрымоце."

Праўда, больш актыўна пачаў супрацоўнічаць з фермерскімі гаспадаркамі Белкаапсаюз. Што ж, верны спосаб павялічыць аб'ёмы нарыхтовак. А для фермераў – гарантаваны рынак збыту. Але ці лёгка дамовіцца, улічваючы інтарэсы кожнага? Аднак фермеры пакуль на раздарожжы і настроены песімістычна. Хоць і прызнаюць сваю зацікаўленасць у супрацоўніцтве.

Але ім у першую чаргу патрэбныя папярэднія дамовы, у якіх прапісана, колькі і чаго спажывкааперацыя купіць. Тады, натуральна, будуць ведаць, што і колькі вырошчваць. Дакументы ж афармляюцца толькі ў верасні-кастрычніку, калі ўжо трэба закладваць ўраджай на зіму. Недастатковымі лічаць фермеры і тыя аб'ёмы, якія гатовая закупіць у іх спажывкааперацыя. Ёсць рознагалоссі і ў коштах. Натуральна, іх дыктуюць рынак, попыт і прапанова на ім. Напрыклад, агаварыць у лютым кошт бульбы, па якой яго будуць прадаваць у верасні, складана.

Але некаторыя калегі не гараць жаданнем аддаваць сваю прадукцыю нарыхтоўшчыкам. Галоўная прычына - неплацяжы. Разлікі можна чакаць месяцамі.

А тэма фірмовага фермерскага гандлю ўсплывае яшчэ не раз. Гэта аснова сучаснага бізнесу. За прыкладам далёка хадзіць не трэба. Так, у суседняй Польшчы фермеры аб'ядноўваюцца ў групы вытворцаў і рэалізуюць сваю прадукцыю пад адзіным брэндам.

Трэба быць у трэндзе, стаць вядомым! Чаму няма ініцыятыў на гэты конт ад Беларускага грамадскага аб'яднання фермераў. Бо канкрэтныя ідэі і адзінкавыя прыклады ўжо ёсць.

**sb.by**

**Пераклад з расейскай рэдактара**



ЭКАНОМІКА

## РАЁН ЗАСТАЕЦЦА Ў ДАЎГАХ

**Як ліквідаваць адставанне ў развіцці і запазычанасць па зарплаце? Напрыканцы красавіка пад кіраўніцтвам старшыні райвыканкама Аляксандра Снарава прайшло чарговае пасяджэнне раённага выканаўчага камітэта, на якім былі абмеркаваны вынікі сацыяльна-эканамічнага развіцця раёна за першы квартал.**

Намеснік старшыні райвыканкама Тацццяна Вараб'ёва паведаміла, што арганізацыі раёна не забяспечылі паказчыкі па прыцягненні прамых замежных інвестыцый і экспарце паслуг.

З 11 рэйтынгавых паказчыкаў па выніках першага квартала выкананы 7.

Не забяспечаны аб'ёмы рэалізацыі прадукцыі. Істотная розніца ёсць і ў паказчыках якасці малака: калі ААТ «Ляжні» прадала 99% малака сортам "экстра", ААТ "АграБаравінка" – 70,8%, то КУСГП "Мішневічы" – 25,3%, "Ульскі" – 31,5%.

Нізкая якасць малака – гэта страты даходаў гаспадарак, а значыць і праблемы з выплатай заработнай платы, набыццём запчастак і ўгнаенняў, адзначыла Тацццяна Мікалаеўна. Так, агульныя страты выручкі з-за розных прычын у гаспадарках раёна склалі 683 тысячы рублёў.

Асобна было абмеркавана пытанне выплаты заработнай платы ў арганізацыях раёна.

Тым не менш, паданых статыстычнага ўпраўлення на 1 красавіка 2018 года запазычанасць па зарплаце ў 8 арганізацыях раёна складае 466,4 тысячы рублёў, у тым ліку ў асобных гаспадарках маецца запазычанасць за студзень, люты, а ў райагрсэрвісе за лістапад 2016-люты 2017 г. – 182 тысячы рублёў. Былі прааналізаваны асноўныя прычыны такой сітуацыі. Гэта ў першую чаргу нізкі ўзровень вытворчасці прадукцыі, што не дазваляе ў поўнай меры атрымліваць дастатковыя для выплаты заробкаў даходы. Акрэслены меры, якія прымаліся для своечасовай выплаты зарплаты вяскоўцам, у тым ліку і штрафныя санкцыі да кіраўнікоў прадпрыемстваў.

Старшыня райвыканкама Аляксандр Снараў адзначыў, што іншага шляху, як забяспячэнне жорсткай выканаўчай, тэхналагічнай і працоўнай дысцыпліны, добрасумленнага стаўлення да сваіх абавязкаў з боку работнікаў усіх узроўняў.

**Ян Вайтовіч**

КУЛЬТУРА

## НОВЫ ТВОР

**«Волаты Прыобальскага краю» – чарговую новую кнігу выдаў Антон Параскевін (Віктар Улюценка) у суаўтарстве з Фрыдрыхам Анапрыенка.**

Асаблівую ўвагу заслугоўвае раздзел пра гісторыю Прыобальскага краю, яго традыцыі і быт.

Пранамсі, аўтары кнігі пастараліся, каб яна была цікавай і карыснай як для сталага чытача, так для падлетка. Тут былі сабраны факты і паданні пра багатыроў, якія даўней жылі на тэрыторыі нашай зямлі, а таксама здымкі сучасных шумілінскіх атлетаў. Кніга выдадзена на расейскай мове.

Дарэчы, назва «Прыобальскі край» з'яўляецца умоўнай. Тут размова ідзе пра вёскі, якія туліліся да ракі Обаль і яе прытокаў, пра людзей, моцных фізічна і духоўна, якія жылі ў гэтых вёсках.

***(працяг на стр. 2)***

КУЛЬТУРА

(пачатак на стр. 1)

Прэзентацыя кнігі адбылася ў чытальнай зале раённай бібліятэкі адбылася прэзентацыя кнігі «Багатыры Прыобальскага краю». Сталыя сябры літаратурна-музычнай гасцёўні «Крыніца», прадстаўнікі ўлады і грамадскасці прыйшлі павіншаваць аўтараў з выхадам у свет літаратурнага твора.

Са здабытчыкамі золата атаясамлівала краязнаўцаў кіраўнік гасцёўні Людміла Грыгор'ева. Толькі той духоўны скарб, які імі здабываецца для грамадства, мае непараўнальна большы кошт. Яна справядліва падкрэсліла, што такіх людзей, адказных перад сваім краем і перад уласным сумленнем, надзвычай мала. А тых, хто можа даць гэтаму напрацаванаму матэрыялу годную літаратурную агранку, – зусім адзінкі.

Высокую ацэнку краязнаўчай і літаратурнай дзейнасці Віктара Улюценкі начальнік аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі райвыканкама Валянціна Навіцкая. Фізічнае і матэрыяльнае не мае моцы, калі яно не мае крэпасці духоўнай, адзначыла ў сваёй вітальнай прамове мясцовая чыноўніца.

Ад імя савета раённай ветэранскай арганізацыі аўтараў павіншавала старшыня савета Тацццяна Церах.

Задушэўныя песні ўпрыгожылі гэтае літаратурнае свята. Дарэчы, прэзентацыю адкрывала аўтарская песня Віктара Улюценкі дыпламант міжнароднага фестывалю «Званы Сафіі» «Снова пахнет сиренью и дымом»

**У. Амбросаў**

РЫНАК ПРАЦЫ

# ПРАЦАЎЛАДКАВАННЕ ВЫПУСНІКОЎ

**У гаспадарках малой радзімы – Шумілінычыны працаўладкуюць частку выпускнікоў Гарадоцкага аграрна-тэхнічнага каледжа. Дырэктар каледжа Уладзімір Шыцько упэўнены, што ніхто з сёлетніх выпускнікоў не застанецца без першага працоўнага месца.**

Бадай, што праблем з іх працаўладкаваннем у гэтым годзе няма дзякуючы падтрымцы аблвыканкама і облагропрома, партнёрству з сельгаспрадпрыемствамі.

Больш за 300 спецыялістаў для сельгасвытворчасці рыхтуюцца да выпуску ў Гарадоцкім дзяржаўным аграрна-тэхнічным каледжы.

З падрыхтоўкай будучых аграрыяў азнаёміўся кіраўнік вобласці Мікалай Шарстнёў падчас свайго візіту ў каледж.

З іх дзве трацiны – з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй: тэхнікі-механікі, тэхнікі-электрыкі і кухары-прадаўцы. Дарэчы, на першыя дзве спецыяльнасці сёлета заявак аказалася больш, чым размяркоўвалі.

Зараз хлопцы і дзяўчаты праходзяць практыку ў сельгаспрадпрыемствах або крамах і сталовых, дзе будуць працаваць пасля здачы экзаменаў і атрымання дыплома. Як і каля 100 выпускнікоў аддзялення профтехподготовки – без пяці хвілін механізатараў – на пасяўной шліфуюць атрыманыя падчас вучобы навыкі.

Папярэдняе размеркаванне ў гэтым каледжы звычайна з'яўляецца канчатковым. Выпускнікі адпраўяцца практычна ва ўсе раёны вобласці, у тым ліку і на сваю малую радзіму, у асноўным у Гарадоцкі, Віцебскі, Шумілінскі, Полацкі і Сенненскі. Калі ўзнікнуць пытанні, дапрыкладу, з забеспячэннем жыллём або гаспадарка адмовіцца ад папаўнення, ёсць рэзерв для пераразмеркавання.

Дырэктар каледжа Уладзімір Шыцько упэўнены, што ніхто з сёлетніх выпускнікоў не застанецца без першага працоўнага месца, паколькі праблем з іх працаўладкаваннем у гэтым годзе няма дзякуючы падтрымцы аблвыканкама і облагропрома, партнёрству з сельгаспрадпрыемствамі. Некалькі хлопцаў з Расіі, Мінскай і Магілёўскай абласцей паедуць у родныя мясціны, хоць пры жаданні маглі б уладкавацца на Віцебшчыне.

**vitvesti.by**

З ЗАЛЫ СУДА

# ПРА10 СУДЗІМАСЦЯЎ І ЗЛАМАНЫЯ РЭБРЫ

**Суд Шумілінскага раёна разгледзеў справу аб сямейным скандале**

У апошні час праблема сямейнага насілля заяўляе пра сябе настолькі гучна, што ёсць выразнае адчуванне таго, дзе пра сям'ю і яе прызначэнне для людзей і грамадства мы ўсё ж многія дагэтуль не ўсвядомілі.

Аднак дзіўна, што многія і сёння, у час неверагоднай лаяльнасці да любых, нават самых неверагодных праяўленняў узаемаадносін паміж людзьмі, прывычна замазваюць сінякі танальнікам і не тое, што ў міліцыю не ідуць, а нават родным і сябрам не выдаюць сямейнага агрэсара. Бо сорамна ж.

Многія людзі, наогул, маюць асабістыя перакананні, што гэта ёсць норма. Як у той прыказцы пра «б'е, значыць, любіць». У такіх выпадках звычайна фігуруюць азначэнні кшталту «сама напрасілася», «справакавала» і г. д. Жанчыны пасыпаюць галаву попелам і згаджаюцца — вось тут сама дык сама і «вінавата».

Ужо стандартная справа нядаўна разглядалася судом Шумілінскага раёна ў ходзе выязнога пасяджэння ў Светласельскім сельвыканкаме. Агрэсіўны мужчына«састажам», заплячамі якога было 5 класаў адукацыі і 10 судзімасцяў, падчас сваркі з жонкай зайшоў так далёка, што пашкодзіў апошняй рэбры. Той прыйшлося нават звяртацца за медыцынскай дапамогай. Калі б не гэта медыцынскае сведчанне, то наўрад ці пра «геройствы» мужа даведалася так многа зацікаўленых адказных асоб. Тым болей, што нашы медыкі абавязаны былі сігналізаваць праваахоўным органам пра факт сямейнага насілля. І хаця ў міліцыю сама пацярпелая не звярталася і ніякай заявы на мужа не пісала, справа ўсё роўна была даведзена мясцовымі ўладамі да суда. Да таго ж пракурор Шумілінскага раёна Сяргей Зайцаў патлумачыў, што ў яго ёсць такія паўнамоцтвы. Усё рабілася менавіта дзеля абароны пацярпелага, дзеля прафілактыкі злачыннасці і правапарушэнняў.

Як высветлілася, жонка нідзе не працуе, а жыве за кошт мужа. Магчыма адсюль вынікае такая «талерантнасць» да жорсткіх кулакоў мужа. Калі пілі разам, і ў хату не пусціла, а калі прыйшоў, то пасля зноў загуляў, ды яшчэ і да былой жонкі прыраўнавала — карацей, кругом «сама вінаватая». Ну і як тут не атрымаць кулакамі па рэбрах?

«І наогул, кіруючыся «мужчынскай логікай» гвалтаўніка–усям'інехтажадзін павінен піць. А яна абавязана гэта разумець», — не прывесці гэтую цытату як банальныя мужчынскія ўяўленні пра ролю і месца жанчыны ў сям'і, проста нельга было сабе дазволіць. А з жонкай яны нібыта памірыліся, селі разам за маленькі столік, зноў выпілі гарачых напояў і паспрабавалі выкрасліць з памяці той выпадак. Аднак праўда і тое, што 200 гадзін грамадскіх работ, прызначаных судом па артыкуле 153 Крымінальнага кодэкса Беларусі, адпрацаваць мужу абавязкова прыйдзецца ў якасці пакарання.

**Алесь Прыбярэжны**

ЗДАРЭННІ, КРЫМІНАЛ

# НЕБЯСПЕЧНАЯ ЗНАХОДКА

**Каля 300 мінамётных мін выяўленыя на поле ў Шумілінскім раёне. Раніцай пры ўзворванні на полі каля вёскі Прыазёрнай механізатар ўбачыў тры падазроныя прадметы.**

Выкліканыя на месца здарэння сапёры знайшлі каля 300 мінамётных мін калібрам 81 мм часоў вайны. Снарады знаходзіліся на двух побач размешчаных участках памерам 2-3 м. Боепрыпасы вывезены ў бяспечнае месца і знішчаны. Начальнік службы інфармацыйна-прапагандысцкай работы в / ч 5524 Марыя Вараб'ёва звярнула ўвагу ўсіх работнікаў аграпрамысловага комплексу на неабходнасць праяўляць павышаную асцярожнасць пры выяўленні падазроных прадметаў у ходзе палявых работ. Паводле яе слоў, "цяпер, у разгар пасяўной кампаніі, у нас штодня ажыццяўляецца па 2-3 выезду, звязаных са знаходжаннем боепрыпасаў".

**belta.by**

**Пераклад з расейскай рэдактара**

ГРАМАДСТВА І ЗАКОН

# ПАРУШЭННІ Ў МЕСЦАХ ПАХАВАННЯ

**У Віцебскай вобласці пракуратура знайшла парушэнні ў функцыянаванні месцаў пахавання, пахаванняў ахвяр войнаў і воінскіх пахаванняў, у тым ліку і ў Шумілінскім раёне**

Як паведамілі ў Генеральнай пракуратуры Беларусі, праверана выкананне заканадаўства аб функцыянаванні грамадскіх, веравызнаўчых месцаў пахавання, воінскіх пахаванняў і пахаванняў ахвяр войнаў. У Браслаўскім, Глыбоцкім, Ушацкім, Шаркаўшчынскім, Чашніцкім і іншых раёнах пракуроры ўсталявалі парушэнні пры інвентарызацыі месцаў пахавання, закліканай выяўляць самавольныя пахавання, тэрыторыі з разбуранымі надмагільных збудаванняў, якія не падлягаюць аднаўленню.

Палажэнні аб дзяржаўным уліку участкаў для пахавання, як таго патрабуе заканадаўства, часта не выконвалі ў Дубровенскім, Шаркаўшчынскім, Чашніцкім раёнах. Гэта не дазволіла сфармаваць поўную цэнтралізаваную аўтаматызаваную інфармацыйную сістэму "Рэгістр насельніцтва", у аснову якой пакладзена база персанальных звестак фізічных асоб, у тым ліку пра месца пахавання.

У Бешанковіцкім, Гарадоцкім, Шумілінскім, Віцебскам, Ушацкім раёнах выяўленыя шматлікія недахопы пры добраўпарадкаванні месцаў пахавання. Так, шэраг могілак не быў абсталяваны пляцоўкамі для часовага захоўвання адходаў, што прывяло да звалках смецця, складзіраванні рэштак выкарыстаных рытуальных прылад на месцы пахавання або за яго межамі, у тым ліку недалёка ад жылых дамоў у вёсках. Несвоечасова выдалялі якія пагражалі абвалам дрэвы, рамантавалі агароджы.

У Глыбоцкім, Пастаўскім, Шаркаўшчынскім, Браслаўскім раёнах не заўсёды былі вызначаны межы тэрыторый, занятых старымі магіламі, і вырашаны іх прававая лёс. Меліся няўлічаныя пахавання ў закінутым стане і з пашкоджанымі надмагіллямі.

Па выніках праверак органы пракуратуры Віцебскай вобласці падрыхтавалі больш за 15 актаў нагляду. Пракуратура вобласці ўнесла адпаведнае прадстаўленне ў аблвыканкам. Запатрабавала ліквідаваць выяўленыя парушэнні, прыцягнуць вінаватых асоб да адказнасці.

**vitvesti.by**

**Пераклад з расейскай рэдактара**

## АБ'ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым–зрабіцебеспатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

*• **Калі прачыталі "Світанак", то калі ласка, перадайце знаёмым.***

*• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

ДЗЯРЖІДЭАЛОГІЯ

# ПАКУТЛІВАЯ ПРАЦА БЕЛАРУСКІХ ІДЭОЛАГАЎ

**Дзяржаўным ідэолагам і сёння ёсць чаму вучыцца ў сваіх камуністычных папярэднікаў. Напрыклад, уменню кампенсаваць слабасць ідэй моцнай медыйнай інфраструктурай.**




Неяк ціха і незаўважна ў Беларусі прайшоў 15-гадовы юбілей ідэалагічнага семінара, які прыраўняў ролю ідэалогіі для дзяржавы да ролі імуннай сістэмы для жывога арганізма.

Сціпласць, як высветлілася, упрыгожвае не толькі маладых дзяўчат, але і работнікаў ідэалагічнай вертыкалі. Такая асаблівасць прафесіі, якая для простага чалавека на першы погляд не толькі не бачная, але і не патрэбная.

Іншая справа — аўтар азбукі паліталогіі. Без пастаяннага звароту да афіцыйных тэкстаў у інфармацыйнай прасторы яму не абысціся. Дзякуй сучасным тэхналогіям — сёння для паспяховага пошуку патрэбнай цытаты не абавязкова перабіраць карткі ў картатэках бібліятэк…

**Мафіёзі па-за канкурэнцыяй**

Скарыстаюся вопытам «шэрага кардынала» савецкай партыйнай наменклатуры і адкрыю даклад дадзінага палітыка (АП) на ідэалагічным семінары, каб знайсці патрэбную цытату. Думаю, вось гэтая падыходзіць: «Грамадства не можа існаваць без цэласнага зводу ідэй, каштоўнасцяў і нормаў, якія аб'ядноўваюць усіх грамадзян (вылучана ў афіцыйным тэксце дакладу. — С.Н.). Дзяржава без ідэалогіі, як і чалавек без думкі, не можа жыць і развівацца, тым больш супрацьстаяць унутраным і знешнім пагрозам і выклікам».

Цікава, калі на вуліцы якога-небудзь беларускага населенага пункта папрасіць першых сустрэчных пералічыць асноўныя ідэі, каштоўнасці і нормы, што аб'ядноўваюць беларусаў, дык якая будзе верагоднасць супадзення адказаў?

Не здзіўлюся, калі яна апынецца блізкай да нуля. Але не варта спяшацца з высновай з нагоды няздольнасці беларускай дзяржавы «жыць і развівацца». Рэспандэнтам складана адказваць на адкрытыя пытанні, г.зн. пытанні, якія не змяшчаюць падказкі ў выглядзе набору адказаў. Такая прырода грамадскага меркавання. Нічога спецыфічна беларускага ў гэтым няма.

Праілюструю дадзенае сцвярджэнне прыкладам з часопіса Інстытута сацыялогіі НАН РБ «Сацыялагічны альманах» за 2010 год. На старонцы 164 прыведзены адказы на пытанне: «Хто сёння мае поспех у беларускім грамадстве?». Абмяжуюся крайнімі адказамі, якія рэспандэнты абралі са спісу: крымінальна-мафіёзныя структуры — 74,3%, працавітыя — 4,7%. Якая аднадушнасць! Якая цэласнасць «зводу ідэй, каштоўнасцяў і нормаў»! Спаць можна спакойна. Беларусам ёсць што супрацьпаставіць «унутраным і знешнім пагрозам і выклікам».

І вось як такое неардынарнае размеркаванне адказаў каментуе аўтар артыкула «Фарміраванне грамадзянскай культуры як сістэмная задача палітычнага працэсу ў Беларусі» С. Рыбчак: «У рэйтынгу сацыяльнага поспеху сучаснае беларускае грамадства аддае адназначна прыярытэт тым сацыяльным групам, дасягненне высокага статусу якімі забяспечана, як уяўляецца, іх імпліцытнай адмовай ад прававых або маральных рэгулятараў уласнай прафесійнай дзейнасці».

Мудрагеліста, але калі некалькі разоў перачытаць і з дапамогай Вікіпедыі замяніць прыметнік «імпліцытная» на «прыхаваная», то зразумець можна. У Беларусі маюць поспех тыя, хто адмаўляюцца выконваць прававыя і маральныя нормы…

**Мультымедыйная аднастайнасць**

5 красавіка АП прызначыў Уладзіміра Жаўняка намеснікам сваёй адміністрацыі. Задача перад неафітам пастаўлена неардынарная: асучасніць сістэму ідэалагічнай работы ў краіне. Вось так, не больш, але і не менш.

Як гэта зрабіць у адсутнасць ідэй, АП не патлумачыў. Усе яго рэкамендацыі да зместу ідэалагічнай работы дачынення не мелі. Яны абмежаваліся выключна яе тэхнічным складнікам. Прапаную чытачам самастойна ацаніць глыбіню рэкамендацый: «У сферы ідэалогіі нам трэба выбудоўваць добрую сістэму. І прамой працы з людзьмі. І асучасніваць яе. Таму што ездзіць па працоўных калектывах і з імі весці дыялог, размаўляць — гэта вельмі важна, заўсёды з людзьмі трэба размаўляць».

Пра што размаўляць — задача не тое каб другасная, а сітуатыўная. Сёння на першым плане могуць апынуцца надоі, заўтра — канстытуцыйны рэферэндум.

Дазволю сабе яшчэ адну цытату: «Нам патрэбны такі чалавек, які будзе ўмець і сам размаўляць з людзьмі, і займацца са сродкамі масавай інфармацыі, арганізоўваць іх, і іншымі пытаннямі, якія тычацца ідэалогіі нашай дзяржавы. Гэта ідэалагічная праца, гэта асноўнае».

Прынцып «два ў адным», магчыма, лепей і не сфармуляваць. Але ўлічваючы, што Жаўняк — чалавек ваенны, я паспрабую зрабіць свой унёсак у разуменне дадзенага прынцыпу: ёсць боегалоўка і ёсць сродак яе дастаўкі. Адно без другога не існуе, тым не менш блытаць іх не варта.

У адпаведнасці з гэтай логікай, прызначаючы Ірыну Акуловіч генеральным дырэктарам рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Беларускае тэлеграфнае агенцтва», АП скіроўваў яе наступнай фразай: «Не скажу, што гэта ўжо такая цяжкая ў вас ноша». Усё правільна. У адрозненне ад «чыстага» ідэолага Жаўняка, зона адказнасці Акуловіч абмежаваная «сродкам дастаўкі». Выраб «боегалоўкі» для яе другасны…

Тут варта нагадаць чытачам, што «Дэмакратыя ў Рэспубліцы Беларусь ажыццяўляецца на аснове разнастайнасці палітычных інстытутаў, ідэалогій і поглядаў» (артыкул 4 Канстытуцыі РБ). Але на чыноўнікаў дадзены артыкул Канстытуцыі не распаўсюджваецца. Яны заклапочаныя прасоўваннем не разнастайнасці, а дзяржаўнай палітыкі. Яны заклапочаныя тэхнічным бокам.

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы час"**

РЭАХА АКЦЫІ

# ПРАРАСЕЙСКАЯ «ПЯТАЯ КАЛЁНА» НА ВУЛІЦАХ МЕНСКУ

**Шэсьце па цэнтру Менску «Несьмяротнага палку» — самы вялікі дэмарш прарасейскіх сілаў у Беларусі пасьля Крыму, а можа, і ўвогуле за ўвесь час незалежнай Беларусі. І гэта выклік для ўладаў, якія апынуліся ў пэўнай разгубленасьці.**

**Што засьведчыла акцыя «Несьмяротны полк»**

Ну вось і дачакаліся. Па галоўным менскім праспэкце прашпацыравала шэсьце колькасьцю паўтары тысячы, якое не хавала сваёй прарасейскай скіраванасьці.

Пад выглядам шанаваньня памяці Перамогі была дэманстрацыя палітычнай лаяльнасьці суседняй краіне.

Калёна была добра арганізаваная, адчувалася грунтоўная падрыхтоўка, у вялікай колькасьці прысутнічала адпаведная атрыбутыка. Георгіеўскія стужкі — гэта кветачкі. Людзі, якія несьлі партрэты Леніна і Сталіна, не хавалі сваёй настальгіі па СССР, жаданьня вярнуцца туды. Маладзёны ішлі з майкамі «Армия России», «Донецкая Народная Республика», «Вежливые люди», з расейскім гербам. Фактычна кіраваў калёнай лідэр «Русі маладой» Сяргей Лушч. Усе разумелі, што акцыя адбываецца ў піку ўладам, бо афіцыйнае мерапрыемства праходзіла з другога боку плошчы Перамогі.

Актыўна дамагаўся дазволу на дэманстрацыю «Несьмяротнага палку» экс-дэпутат Палаты прадстаўнікоў і адзін з кіраўнікоў Камуністычнай партыі Беларусі Валеры Драко. Шпацыраваў у калёне старшыня Менскай гарадзкой арганізацыі Беларускай патрыятычнай партыі (якую ўзначальвае былы кандыдат у прэзыдэнты, а цяпер дэпутат Палаты прадстаўнікоў Мікалай Улаховіч) Уладзімер Навасельскі. Былі прадстаўнікі Беларускага славянскага камітэту, актывісты праваслаўных арганізацый. Узялі ўдзел у шэсьці афіцыёзныя палітолягі Аляксей Дзермант і Аляксандар Шпакоўскі, якія не вылазяць з розных ток-шоў на беларускіх тэлеканалах. То бок гэта ўсё людзі з прыўладных структур.

Расейскае інфармацыйнае агенцтва «Спутник» па выніках сьвяткаваньня Дня Перамогі дало загаловак: «„Несьмяротны полк" прайшоў у сераду па ўсёй Беларусі». Тут яно трохі выдала жаданае за існае. Усё ж людзі з партрэтамі загінулых продкаў ішлі ў рамках афіцыйных мерапрыемстваў пад назвай «Беларусь памятае».

Але парадокс у тым, што абсалютная большасьць людзей, якія ішлі з партрэтамі, былі ўпэўненыя, што ўдзельнічаюць у акцыі «Несьмяротны полк». Бо жывуць у расейскай інфармацыйнай прасторы і глядзяць на сьвет праз павелічальнае шкло фэдэральных тэлеканалаў РФ. Вось гэтае стыхійнае, да канца не ўсьвядомленае адчуваньне сябе часткай «русского мира», можа, і ёсьць самае небясьпечнае.

Беларускія ўлады не хавалі сваёй разгубленасьці. Спачатку менскі гарвыканкам забараніў шэсьце «Несьмяротны полк». Афіцыйнага дазволу так і не было. Але 8 траўня зьявілася вусная дамоўленасьць, што ўлады ня будуць перашкаджаць шэсьцю.

Адзінае, што прыдумалі ўлады, каб не дапусьціць удзельнікаў калёны на плошчу Перамогі, — гэта паставілі турнікеты і доўга, старанна аглядалі людзей з мэталашукальнікамі.

Сам Лукашэнка няўклюдна апраўдваўся — маўляў, гэта ў Беларусі першымі прыдумалі хадзіць на гэтае сьвята з партрэтамі загінулых воінаў, мы і ня думалі нічога забараняць. Добрая міна пры дрэннай гульні.

**Чаму дазволілі**

Памятаеце, пасьля Дня Волі Аляксандар Лукашэнка ў катэгарычнай форме запатрабаваў ад міністра ўнутраных спраў Ігара Шуневіча жорстка перапыняць усе несанкцыянаваныя акцыі. Але разагнаць міліцэйскім спэцназам гэтае шэсьце не адважыліся. Чаму?

Некалькі прычын. Найперш, не хацелася псаваць сьвята, якому ўлады аддаюць надзвычай вялікую ўвагу. Па-другое, улады, думаю, не чакалі, што шэсьце прыме такі яркі, выразны прарасейскі характар.

Па-трэцяе, адна справа — біць дубінкамі апазыцыю, людзей зь бел-чырвона-белымі сьцягамі. Гэта ворагі рэжыму, іх не шкада. А тут жа людзі палітычна родныя. Ідэю настальгіі па СССР доўгі час выказваў сам Лукашэнка.

Дарэчы, выступ на ўрачыстым паседжаньні, прысьвечаным Дню Перамогі, міністра абароны Беларусі Андрэя Раўкова быў проста фэнамэнальны. Дасюль я думаў, што ён проста савецкі генэрал, а аказваецца, што яшчэ і сталініст. Такога гімна сталінізму даўно не было ў беларускім афіцыйным дыскурсе. Раўкоў фактычна вярнуўся да вэрсіі часоў СССР, што разгром фашызму быў перамогай савецкага грамадзкага і дзяржаўнага ладу.

Нарэшце, па-чацьвёртае — і галоўнае. Мала таго, што разгон акцыі «Несьмяротны полк» выклікаў бы пэўны скандал у адносінах з Расеяй. Гэта было б паўбяды. Вось блогераў Regnum пасадзілі на год за краты, не пабаяліся рэакцыі Масквы…

У любым выпадку гэты прарасейскі дэмарш 9 траўня — сур'ёзны выклік для рэжыму Лукашэнкі. Дасюль тое, што ўлады не кантралююць беларускую масавую сьвядомасьць, што на яе значна больш уплывае суседняя дзяржава, было толькі фактам сацыялёгіі. Акцыя на Дзень Перамогі паказала, што гэтая праблема стала палітычнай зьявай, трансфармуецца ў палітычнае дзеяньне. Мы выразна ўбачылі ў цэнтры сталіцы прарасейскую «пятую калёну». І з гэтым трэба нешта рабіць.

Меркаваньні, выказаныя ў блогах, перадаюць погляды саміх аўтараў і не абавязкова адлюстроўваюць пазыцыю рэдакцыі.

**Валер Карбалевіч**
**"Радыё Свабода"**

ЕЎРАПЕЙСКІ КАЛЯНДАР

# УКРАІНА ДЭКАМУНІЗАВАЛА ДЗЕНЬ ПЕРАМОГІ

**Украіна ад 2015 году перайшла на эўрапейскі каляндар ушанаваньня падзеяў, зьвязаных з завяршэньнем Другой усясьветнай вайны і падпісаньнем у 1945 годзе акту аб безагаворачнай капітуляцыі нацысцкай Нямеччыны. 8 траўня адзначаецца ва Ўкраіне як Дзень памяці і прымірэньня.**

**Сымбалі і назвы**

Ва Ўкраіне больш як два дзесяцігодзьдзі пасьля атрыманьня незалежнасьці сымбалем ушанаваньня Другой усясьветнай вайны, якая тады, як і ва ўсіх іншых постсавецкіх краінах, па інэрцыі яшчэ называлася Вялікай Айчыннай, была георгіеўская стужка. Пасьля анэксіі Расеяй Крыму і пачатку расейскай узброенай агрэсіі на Данбасе ў 2014 годзе стужку пачалі ўспрымаць як сымбаль «русского мира», а ўжо ў 2015 годзе ад яе адмовіліся афіцыйна на карысьць кветкі маку.

Упершыню новы сымбаль, зь якім асацыявалася вайна 1939-1945 гадоў, быў прэзэнтаваны ў 2009 годзе на вялікай навуковай канфэрэнцыі ў Кіева-Магілянскай акадэміі, але канчаткова ён быў афармлены толькі ў 2015-м харкаўскім дызайнэрам Сяргеем Мішакіным. У адной выяве адначасова і кветка маку, і крывавы сьлед ад кулі — як перасьцярога ад паўтарэньня вайны.

З канчатковай назвай самой вайны як Другой усясьветнай ва Ўкраіне вызначыліся ў 2017 годзе, калі нацыянальны парлямэнт ухваліў зьмены да закону аб статусе вэтэранаў вайны і гарантыях іх сацыяльнай абароны. Да таго часу ў школьных падручніках гісторыі вайну 1939-1945 гадоў называлі Вялікай Айчыннай.

Дыскусіі на гэтую тэму вяліся вельмі доўга і зь пераменным посьпехам — у 2009 годзе яны завяршыліся на карысьць выкарыстаньня тэрміну «Другая ўсясьветная вайна». Але ўжо праз два гады, падчас прэзыдэнцтва Віктара Януковіча, у школьныя падручнікі вярнулі Вялікую Айчынную вайну, скарацілі інфармацыю пра АУН-УПА, якая змагалася супраць савецкіх войскаў, і цалкам прыбралі згадкі аб Аранжавай рэвалюцыі 2004 году.

У 2015 годзе Вярхоўная Рада Ўкраіны ўхваліла пакет законаў аб дэкамунізацыі ўкраінскага грамадзтва, у якім воіны АУН-УПА атрымалі статус змагароў за незалежнасьць краіны ў XX стагодзьдзі, якія ўшаноўваюцца гэтаксама, як і ўдзельнікі вайны, што змагаліся на баку Чырвонай арміі.

**Першая хвіліна міру**

8 траўня па ўсёй Украіне адбываецца афіцыйнае мерапрыемства «Першая хвіліна міру». Яна пачынаецца за паўтары гадзіны да поўначы. У Кіеве акцыя праводзіцца пры ўдзеле кіраўніцтва дзяржавы ў Нацыянальным музэі гісторыі Ўкраіны ў Другой усясьветнай вайне.

Летась, дарэчы, на гэтай акцыі лунаў бел-чырвона-белы сьцяжок з гербам «Пагоня». Яго трымала дзяўчынка сярод моладзі, якая атачала трыбуны з запрошанымі гасьцямі. Побач лунalі сьцяжкі іншых дзяржаў — Швэцыі, Турэччыны, Вялікай Брытаніі, Літвы, Канады, Польшчы.

**Алена Літвінава**
**https://www.svaboda.org**

ПРАТЭСТ

# «ПУ-ТИН! ПУ-ТИН! ПУ-ТИН!» ПРОТИВ «ВОР! ВОР! ВОР!»

**Акция накануне инаугурации Путина закончилась задержаниями по всей России. По данным вечер субботы, речь шла о почти 1600 задержанных по всей России. Больше всего — в Москве (592), потом в Челябинске (164) и в Санкт-Петербурге (112).**

К 14 часам дня пространство у памятника Пушкину в Москве было заполнено людьми. Сторонники Навального делили площадь со сторонниками президента.

Несколько человек с оранжево-черным флагом и надписью «Национально-освободительное движение» заняли место у постамента памятника и оттуда скандировали «Пу-тин! Пу-тин! Пу-тин!»

Из окружавшей их толпы оппозиционеров добавляли: «Вор! Вор! Вор!» Многие из них пришли на Пушкинскую площадь с нарисованными плакатами — «Мы против вот этого вот всего!», «Открой глаза, ты раб царя!», «Не мешайте нам жить!»

Мэрия Москвы ранее отказалась согласовать акцию оппозиционного политика в центре Москвы и предложила площадки далеко за пределами Садового кольца. Политик от них отказался и призвал единомышленников выйти на Тверскую улицу. В ответ московские власти запретили ему проводить акцию.

Уже через 10 минут после начала акции полицейские в громкоговоритель начали предупреждать участков: «Уважаемые граждане, ваши действия незаконны. Просьба разойтись. В противном случае против вас будет применена физическая сила и спецсредства».

Еще через несколько минут сотрудники полиции активно начали пользоваться и тем, и другим.

Полицейские группами вклинивалась в толпу, хватали людей и тащили их к припаркованным на Тверской автобусам. Некоторых задержанных силой ударяли о корпус машины и пинками по ногам заставляли встать в удобную для обыска позу. Кто-то попадал в полицейские автобусы волоком по асфальту.

Люди в казачьей форме, которые неторопливо прогуливались здесь до начала задержаний, в общей суматохе начали устраивать потасовки и бить людей нагайками. В те моменты, когда полицейские оттесняли толпу, одетые казаками мужчины двигались за цепью силовиков и оттуда атаковали участников акции.

Инициатор акции Алексей Навальный был задержан спустя несколько минут после того, как он появился на Пушкинской площади. Несколько сотрудников полиции схватили его за руки и за ноги и унесли в полицейскую машину.

На самой площади вскоре стало заметно меньше людей: их вытесняли на Страстной бульвар, где цепочки сотрудников полиции сначала делили толпу на плотные группы, а затем быстро и жестко проталкивали подальше от площади. Оказавшиеся заблокированными люди скандировали «Россия без Путина»...

По расчищенному от машин Страстному бульвару то и дело волокли протестующих. Задержания продолжались до тех пор, пока полиция полностью не вытеснила людей с периметра Пушкинской площади и с прилегающих к ней улиц.

**Партал "Салідарнасць"**

«ТУНЕЯДСКИЙ» ДЕКРЕТ

# ОТМЕНЯЮТ БЕЗ ОТМЕНЫ – СПУСКАЮТ НА ТОРМОЗАХ

**Просто взять и отменить декрет власть не может — боится потерять лицо. Чем больше деталей мы узнаем о новой версии «антитунеядского» декрета, тем более узким представляется круг попадающих под действие этого документа лиц.**

Напомним: декрет «О содействии занятости населения» был принят 25 января 2018 года вместо декрета «О предупреждении социального иждивенчества» от 2 апреля 2015 года, вызвавшего массовое недовольство и уличные протесты. Новый документ выглядит мягче.

**На усмотрение местных властей**

В мае-июне появится примерный перечень трудных жизненных ситуаций, на основании которых того или иного человека могут исключить из базы «тунеядцев» (теперь эту категорию более корректно называют «трудоспособными гражданами, не занятыми в экономике»).

Для составления перечня Министерство труда и социальной защиты собирает предложения на этот счет от районных властей. Ранее за ними уже были закреплены полномочия освобождать граждан от уплаты сбора именно по указанному поводу.

«Сейчас как раз с учетом практики применения мы определим примерный перечень таких ситуаций, но местным органам власти, собственно говоря, предоставлены самые широкие полномочия. Любую ситуацию они могут признать трудной жизненной в зависимости от индивидуальных особенностей», — отметил в комментарии для Naviny.by начальник управления политики занятости Минтруда Олег Токун.

Такой ситуацией, по его словам, может быть, например, продолжительная болезнь ребенка, за которым нужен уход.

Наличие трудной жизненной ситуации сузит круг лиц, которые попадут под действие обновленного декрета. Особенно заметно это будет в регионах, где уровень бедности выше, чем в Минске. В зону риска попадают семьи, в которых кто-то не работает, а среднедушевые доходы ниже бюджета прожиточного минимума, а также семьи с детьми (в провинции то и другое часто сочетается)…

**У кого и насколько потяжелеет жировка**

Вместо того чтобы платить сбор, как предполагал прежний декрет, теперь незанятые в экономике должны будут в полном объеме платить за горячую воду, отопление и газ (при наличии газовых котлов).

В Министерстве жилищно-коммунального хозяйства подсчитали, что плата за отопление в стандартной двухкомнатной квартире, где зарегистрировано два работающих и один не занятый в экономике, увеличится примерно на 15 рублей, за горячую воду и газ — примерно на 5-6 рублей в месяц.

Но платить 100% за жилищно-коммунальные услуги «тунеядец» будет только в том случае, если он является собственником жилья. Это обстоятельство также сузит круг лиц, подпадающих под действие декрета.

«Скорее всего, те, кто ведет асоциальный образ жизни, не будут являться собственниками квартир. Родственники уже наверняка позаботились об этом, а шансов стать собственниками у них мало, если они из-за своих вредных привычек или убеждений не работали, не работают и не собираются работать. В конечном итоге мы выйдем, скорее всего, только на тех лиц, которые работают в тени и не платят налоги. Это значительно меньшее количество людей, чем изначально планировалось охватить», — подчеркнула Щербина.

**Круг сужается**

Если поначалу власти насчитали в стране 470 тысяч «тунеядцев», то в последнее время называется цифра в 250 тысяч. В базу данных, которая составляется по новому декрету, могут попасть, помимо работающих в тени, белорусы, которые постоянно ездят на заработки за границу. Но таких трудовых мигрантов трудно будет найти в стране.

«То есть, под финансовые санкции, под оплату жилищно-коммунальных услуг по полной программе попадает достаточно узкая группа людей», — отметила в комментарии для Naviny.by академический директор Центра экономических исследований BEROC Катерина Борнукова.

Вместе с тем, многие попадут в поле зрения комиссий по трудоустройству.

«Если будет подозрение, что человек занимается незарегистрированной предпринимательской деятельностью, то налоговые органы будут вступать в игру. А если речь идет о неблагополучных слоях населения, то, по сути, комиссия будет играть роль биржи труда просто в принудительном порядке», — предполагает Борнукова.

**Спускают на тормозах**

В целом по мере того как обновленный декрет обрастает деталями, создается впечатление, что его пытаются спустить на тормозах. «По сути, происходит отмена декрета без его отмены», — отметила Борнукова.

Но власть не может просто отменить «антитунеядский» декрет, чтобы не потерять лицо. Недавно Александр Лукашенко признался, что заставить всех работать — это была его идея.

«Самому президенту нравится эта идея, что либо все должны работать, либо нужно разобраться, почему люди не работают, поэтому задача правительства была, с одной стороны, сформулировать так, чтобы все еще сохранялся декрет, с другой стороны, чтобы люди пострадали от него как можно меньше», — считает Борнукова.

**Александр Ярошевич**
**"Белапан"**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 16.05.2018 у 16.55**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.